

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 16 (453) | 26 КРАСАВІКА 2000 г.

# “Наша слова” віншуе ўсіх беларусаў з прайшоўшым і надыходзячым Вялікаднямі



100 гадоў назад у вёсцы Багацькаўка Мсціслаўскага раёна нарадзіўся Гаўрыіл Іванавіч Гарэцкі, беларускі геолаг, доктар геолага-мінералагічных навук, акадэмік Нацыянальнай акадэміі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі. У 1930 годзе Г. І. Гарэцкі быў арыштаваны, прыгавораны да 10 гадоў пазбаўлення волі, пазбаўлены звання акадэміка. Вызвалены ў 1934 годзе. У 1937 і 1938 гадах зноў арыштаваны. Цалкам рэабілітаваны ў 1958 годзе. Адноўлены ў званні акадэміка ў 1965 годзе. Аўтар шматлікіх прац па фальклёру, эканоміцы, геаграфіі, дэмаграфіі, сельскай і лясной гаспадарцы, археалогіі (усяго больш 160, у тым ліку 8 манаграфій), адзін са стваральнікаў руска-беларускага слоўніка. Памёр у 1988 годзе.

## Адродзім беларускую мову і вернем нашыя адвечныя сімвалы!

**(Зварот Рады ТБМ да беларускае грамадскасці)**

Дарагія суайчыннікі!

14 траўня 2000 года спаўняецца 5 гадоў з часу правядзення першага прэзідэнцкага рэферэндуму.

Рэферэндум, што пярэчыў тагачаснаму заканадаўству Беларусі, быў гвалтоўна навязаны Вярхоўнаму Савету пасля таго, як у зале паседжанняў збілі дэпутатаў ад апазіцыі, якія абвясцілі галадоўку, пратэстуючы супраць парушэння Канстытуцыі нашай дзяржавы. Фактычна гэты рэферэндум быў спланаваны імперскімі сіламі Расеі, ажыццяўляўся з іх непасрэднай дапамогі і меў на мэце анексію Беларусі.

Падчас рэферэндуму мелі месца шматлікія парушэнні, асабліва ў вясковай мясцовасці, а выява новага гербу пярэчыла свайму першапачатковаму варыянту, які быў у свой час зацверджаны Вярхоўным Саветам. І нават у такіх умовах за змену дзяржаўнай сімволікі прагаласавала менш за палову насельніцтва Беларусі (каля 49% грамадзянаў), а за наданне аднолькавых правоў беларускай і рускай мовам – 56% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў.

І хоць рэферэндум не меў заканадаўчай моцы, аднак, у парушэнне заканадаўства дзяржаўная сімволіка была дэманстратыўна змененая, а беларуская мова па сутнасці страціла функцыю дзяржаўнай. На сёння ёю заканадаўства дзяржаўная сімволіка была дэманстратыўна змененая, а беларуская мова па сутнасці страціла функцыю дзяржаўнай. На сёння ёю прынцыпова не карыстаюцца кіраўнік дзяржавы з сваім бліжэйшым атачэннем і іншыя чыноўнікі па усёй Беларусі. Мэтанакіравана згортваецца прастора беларускамоўнай адукацыі ўсіх узроўняў, адсутнічаюць беларускамоўныя ВНУ, беларуская мова не толькі не выкарыстоўваецца ў справаводстве ў міністэрствах і іншых дзяржаўных установах, але і прынцыпова не ўжываецца ні ў якіх іншых стасунках у судах, пракуратуры, мытным камітэце, КДБ, Міністэрстве абароны, унутраных спраў, сувязі... Гэты сумны пералік можна цягнуць бясконца...

Аднак вынікі апошняга перапісу насельніцтва Беларусі, усё ж яскрава засведчылі, што, нягледзячы на моўную дыскрымінацыю беларусаў, амаль 8 мільёнаў жыхароў краіны прыхільна ставяцца да беларускай мовы і лічаць яе сваёй роднай, а 3 мільёны 700 тысячаў з іх штодня размаўляюць менавіта па-беларуску.

Таму ТБМ звяртаецца з заклікам да ўсіх кіраўнікоў грамадскіх арганізацыяў, прафсаюзаў, палітычных партыяў і рухаў арганізаваць 13 і 14 траўня 2000 года па ўсёй Беларусі пікеты і мітынгі з патрабаваннем надаць беларускай мове рэальны статус дзяржаўнай і вярнуць беларускаму народу яго спрадвечныя гістарычныя сімвалы.

**Рэспубліканская Рада ТБМ.**
**16 красавіка 2000 г. Менск.**

### Пастанова Рады ТБМ ад 16 красавіка 2000 г.

**аб выніках дзейнасці ТБМ за апошні год пасля VI з’езду.**

1.Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад старшыні ТБМ Алега Трусава Рада лічыць, што дзейнасць Сакратарыята і Рады з’яўляецца станоўчай.

2.Усім існуючым суполкам, гарадскім, раённым і абласным арганізацыям ТБМ неабходна стаць на ўлік у мясцовых органах улады да 1 чэрвеня 2000 г. і копіі пасведчанняў аб сваёй рэгістрацыі перадаць у сакратарыят ТБМ да 10 чэрвеня 2000 г.

3.Усім рэгіянальным арганізацыям ТБМ неабходна да 1 чэрвеня 2000 г. перадаць у сакратарыят спісы сваіх сяброў, а таксама сабраць сяброўскія складкі за 2000 г.

4.Арганізаваць падпіску ўсіх сяброў ТБМ на газету “Наша слова” на III квартал 2000 г.

### Пастанова Рады ТБМ

**Аб правядзенні масавых актаў пратэсту з нагоды 5-ых угодкаў травеньскага рэферэндуму 1995 года.**

**Рада ТБМ пастанаўляе:**

1.Усім зарэгістраваным рэгіянальным арганізацыям ТБМ падаць заяўкі на 13 альбо 14 траўня 2000 года ў мясцовыя органы ўлады на правядзенне пікетаў з патрабаваннем надання беларускай мове рэальнага статуса мясцовыя органы ўлады на правядзенне пікетаў з патрабаваннем надання беларускай мове рэальнага статуса дзяржаўнай мовы і адкрыцці ў Менску БНУ.

2. Кіраўніцтву падаць заяўку на правядзенне ў Менску 14 траўня мітынгу пратэста супраць лінгвацыду беларускай мовы.

3. Сакратарыяту ТБМ накіраваць у СМІ Зварот Рады ТБМ да беларускай грамадскасці.

### Пастанова Рады ТБМ

**Аб прыняцці Канцэпцыі і Статута БНУ.**

1.Рада ТБМ ухваляе праекты Статута і Канцэпцыі стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта, распрацаваныя па яе даручэнню ініцыятыўнай групай па стварэнні БНУ.

2. Рада ТБМ прапануе усім структурам ТБМ актыўна ўключыцца ў збор подпісаў грамадзян Беларусі за адкрыццё БНУ. Усе сабраныя подпісы перадаць у сакратарыят не пазней 20 траўня 2000 г.

3. Рада ТБМ даручае кіраўніцтву ТБМ перадаць праекты Статута і Канцэпцыі БНУ, сабраныя подпісы грамадзян Беларусі і іншых краін у Адміністрацыю Прэзідэнта і Міністэрства адукацыі Беларусі не пазней 1 чэрвеня 2000 г., а таксама прапанову адкрыць у Менску з 1 верасня 2001 г. БНУ з выкладаннем усіх прадметаў на дзяржаўнай беларускай мове з філіяламі ў гарах Ліда, Пінск і Орша.

### ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

Залаты агеньчык свечачкі гарыць,
Як мне добра ў Храме з Богам гаварыць.
Свеціцца абраз мне. разбіны аклад...
Божачка, пашлі нам на Краіну лад!
Апынуўся ў горы сціплы беларус:
Атруціў Чарнобыль многа родных душ.
За Дняпром і Сожам свежы курганы.
А яшчэ хварэюць дочкі і сыны.
Божухна, цярплівы, адпусці нам грэх.
Бо заўсёды вораг забіраў з-пад стрэх...
Шчыра так малю я: боль свой на – алтар.
Бог, вярні зямельку, наш спрадвечны дар.
Госпад, дзе вулкан той зямлі апаліў,
Ты пасей гаючую, хоць адну з раслін!
Бог, прамый зямельку нам святым дажджом,
Бо пакут даволі беларусу ўжо.
Кажуць, што мы вымрам цераз дваццаць год.
Госпад, уратуй наш беларускі род!
Залаты агеньчык свечачкі гарыць,
За грахі ўсім трэба ГОСПАДА маліць!!!
АМАН.

*Лілея Матусевіч,*
*г. Менск.*

### Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| 1. Алесь Гуркоў (Менск) | 10000 руб. |
| 2. Алесь Камлюк (Менск) | 1000 руб. |
| 3. Святлана Камлюк (Менск) | 1000 руб. |
| 4. Уладзімір Цярохін (Менск) | 12000 руб. |
| 5. Валянцін Чарноў (Менск) | 1000 руб. |
| 6. Анатоль Хрэноўскі (Канада) | 20 $ |
| 7. Сям'я Руткоўскіх (Менск) | 3000 руб. |
| 8. Камлюк Святлана, (Менск) | 500 руб. |
| 9. Камлюк Алесь, (Менск) | 500 руб. |
| 10.Чарноў Валянцін, (Менск) | 500 руб. |
| 11.Цярохін Уладзімір, (Менск) | 6.000 руб. |
| 12.ЗАТ “Сотвар” (Менск) | 10.000 руб. |

Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі падтрымаць дзейнасць Таварыства. Сёння ТБМ праводзіць адно масавае мерапрыемства за другім. Усе яны патрабуюць вялікіх выдаткаў. Сакратарыят просіць дасылаць ахвяраванні на адрас: 220005, г. Менск, Румянцава, 13, або пералічаць на рахунак ТБМ № 3015212330014 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска, код 764. Кантактныя тэлефоны ў Менску 284-85-11, 213-43-52.

Дэкану факультэта гісторыі і культуры
ГрДзУ імя Янкі Купалы Крэню Івану Платонавічу
Студэнтаў 2 курса факультэта гісторыі і
культуры ГрДзУ імя Янкі Купалы

**Заява**

Паважаны, Іван Платонавіч!

Факультэт гісторыі і культуры Гродзенскага Дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы заўсёды быў цэнтрам захавання нацыянальных традыцыяў, культуры беларускага народа. Тут існаваў асяродак студэнтаў і выкладнікаў, для якіх гісторыя народа азначала не толькі назвы дысцыплінаў, але і нешта большае.

Адным з складнікаў фармавання самасвядомай асобы з’яўляецца нацыянальная мова. Закон Рэспублікі Беларусь “Аб мовах” дае права кожнаму навучацца на яго роднай мове. Абапіраючыся на гэты закон, мы просім Вас стварыць умовы для выкладання ўсіх навучальных дысцыплінаў па-беларуску. Тым больш, што адпаведная тэрміналогія добра распрацаваная, а калектыў выкладнікаў дастаткова падрыхтаваны для выкладання па-беларуску.

Калі просьба выкладання па-беларуску на ўсім курсу па нейкіх прычынах не можа быць задаволена, мы патрабуем стварэння на нашым курсе беларускамоўнай плыні.

Просім Вас даць нам адказ у пісьмовым выглядзе на працягу тыдня.

У выпадку, калі пытанне не будзе вырашана адпаведна, мы пакідаем за сабой права звяртацца ў вышэйшыя інстанцыі, сродкі масавай інфармацыі і праваабарончыя арганізацыі.

14.02.2000г. Подпісы.

# У 2000-м годзе духоўны Чарнобыль стаў татальным

Марыя Мацюкевіч
г. Салігорск

# Нельга сядзець склаўшы рукі

## Даклад навукова-практычнай канферэнцыі "Закон аб мовах -- вынікі і перспектывы" 26 лютага 2000 года

Даволі часта ўзгадваецца пачатак 90-х гадоў, калі імкліва крочыла па нашай рэспубліцы хваля ўздыму на ніве нацыянальнага адраджэння. У траўні 1990 года была створана Салігорская раённа-гарадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы. Памятаецца, што актыўны ўдзел у яе стварэнні прымалі тагачасныя партыйныя функцыянеры. Менавіта з іх дапамогай удалося сабраць аўдыторыю пад сотні тры прыхільнікаў нацыянальнай ідэі. Гэта былі людзі розных прафесій: настаўнікі і выхавальнікі дашкольных дзіцячых устаноў, выкладчыкі тэхнікумаў і вучылішчаў, вучні, урачы і малодшы персанал бальніцы, журналісты, архітэктары, мастакі, рабочыя і пенсіянеры. Тады адбылося знаёмства і з паэтам Лявонам Случанінам, які двойчы прайшоў праз жудасную машыну сталінскіх ГУЛАГаў. Пасля пачалася карпатлівая штодзённая праца. Кіруючыся Законам аб мовах і Дзяржаўнай праграмай развіцця моў, актывісты Таварыства распрацавалі мерапрыемства па ўкараненні беларускай мовы ў горадзе і раёне. Гэтыя мерапрыемствы былі зацверджаны на сумесным паседжанні гарадскога і раённага выканкамаў. На беларускую мову была пераведзена інфармацыя і ў Салігорску, і ў раёне. Роднае слова загучала на аўтавакзале, пачаўся пераход на вядзенне справаводства па-беларуску. Дзевяць з дванаццаці школ горада перайшлі на навучанне на беларускай мове. Планаваўся пераход на беларускую мову асноўных перыядычных выданняў. Але... Стаўленне старшыні гарвыканкама Мікалая Юрчыка пачало мяняцца яшчэ задоўга да сумнавядомага рэферэндуму. Варта было на адным з паседжанняў гарвыканкама пакрытыкаваць яго пазіцыю, як пачаліся рэпрэсіі, а вынікі рэферэндуму дапамаглі спадару Юрчыку ў барацьбе са мной асабіста. Няма неабходнасці пералічваць усё, што было зроблена не на карысць нацыянальнаму адраджэнню. Варта толькі адзначыць, што быў зачынены шапік ТБМ, які ў такім шматнацыянальным горадзе, як Салігорск, быў проста неабходны. Дадам, што складаная эканамічная сітуацыя не дала магчымасці выдаваць адзіную беларускамоўную газету ў горадзе, якая мела прыгожую назву – "Рагнеда" і была скіравана на абуджэнне ў чытачоў нацыянальнай самасвядомасці, усведамленне ўласнай годнасці і выхаванне пачуцця гонару за сваю Радзіму, свой народ.

Пасля рэферэндуму 1996 года сітуацыя яшчэ больш пагоршылася. У горадзе засталася толькі адна беларуская школа № 12, руска-беларускімі сталі школы № 1 і № 2, гімназія. З 4869 вучняў, якія займаюцца ў гэтых школах, 2341 навучаюцца па-беларуску, што складае 13,5% ад усіх навучэнцаў школ горада. Ёсць у Салігорску і адзін беларускамоўны садок, але лёс мовы выхавання ў ім пад пагрозай, бо школа, у якую пойдуць дзеці пасля, рускамоўная.

Па словах загадчыка раённага аддзела адукацыі Валерыя Бычэні, усе вясковыя школы беларускамоўныя. Навучанне на рускай мове вядзецца ў школах гарадскіх пасёлкаў Старобін і Чырвоная Слабада. Справаводства ж як у горадзе, так і ў раёне вядзецца ў асноўным па-руску.

Мая асабістая пазіцыя такая: нельга сядзець склаўшы рукі, бо, як вядома, пад ляжачы камень вада не пацячэ. Таму ў горадзе стала традыцыяй праводзіць святы "Роднай мовы сваёй не цурайся", удзел у якіх заўсёды бяруць нашы пісьменнікі. Трэба падкрэсліць, што апошнія тры гады ідэю правядзення гэтых святаў падтрымлівае гарвыканкам і яго старшыня Ганна Лаўрукевіч. Чарговае свята, прысвечанае дзесяцігадоваму юбілею ўтварэння Салігорскай арганізацыі ТБМ і прыняцця ў рэспубліцы Закона аб мовах, будзе ладзіцца ў траўні.

Бадай самае галоўнае зараз тое, што ў Салігорску пачаў працаваць з 23 лютага дзяржаўны тэлеканал. Праўда, пакуль што няма штатнага раскладу і не зусім яшчэ вырашана пытанне фінансавання, таму ўзровень перадач жадае лепшага. Пакуль што беларуская мова на тэлеканале гучыць толькі ў навінах, але, як запэўніла старшыня гарвыканкама, канал будзе беларускамоўным Для таго, каб ажыццявіць гэтую задачу, пасля заканчэння навучальнага года працаваць на тэлебачанні буду я. А гэта значыць, што жыхары шахцёрскага горада і навакольных вёсак праз такі магутны рычаг, як тэлебачанне, будуць далучаны да роднага слова.

Я пастаянна сачу за прэсай. Вельмі ўражваюць развагі пісьменніка Уладзіміра Дамашэвіча, сэрца якога перапоўнена болем за лёс роднай мовы. У гэтай сувязі хацелася б узгадаць эпізод з апошняга свята беларускага слова, праведзенага ў лістападзе. Перад святам з дапамогай мясцовага Палаца культуры быў арганізаваны спектакль купалаўцаў "Смак яблыка" па п'есе драматурга Анатоля Дзялендзіка, нашага земляка. Якім жа было маё здзіўленне, калі пасля ўступнага слова на сакавітай беларускай мове дырэктара Нацыянальнага тэатра Генадзя Давыдзькі Анатоль Андрэевіч выступіў ... па-руску. Наведаўшы ж пад час свята адну з салігорскіх школ на запытанне настаўніка пра будучыню беларускай мовы пісьменнік адказаў, што наша мова не мае ніякай будучыні, што трэба аваладваць замежнымі мовамі. Балюча і крыўдна. Такое сцвярджэнне пісьменніка не паддаецца ніякай логіцы. Аказваецца, манкрутаў усюды хапае, нават сярод тых, чыё прызванне, а больш дакладна, абавязак бараніць роднае слова. Хочацца нагадаць словы вядомага ўсім Францішка Багушэвіча: "Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная. Яна такая ж людская і панская, як і нямецкая, альбо французская, альбо і іншая якая...".

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА ПЕРАД ГРАНДЫЁЗНАСЦЮ ВЕРТЫКАЛІ.

Праведзеная вертыкаллю замена беларускай нацыянальнай сімволікі (герб "Пагоня", бел-чырвона-белы-сцяг) на (згодна з афіцыйным тэкстам) "прапанаваную прэзідэнтам" звычайна тлумачыцца жаданнямі Лукашэнкі А., падмацаванымі воляй незаконнага рэферэндуму. Пры такім тлумачэнні вертыкаллю свядома замоўчваецца тое, што пытанні, якія парушаюць неад'емнае права беларускага народа на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасць, на дзяржаўныя гарантыі існавання беларускай культуры і мовы, на дзяржаўны сцяг і герб згодна з Канстытуцыяй не выносіцца на рэферэндум.

Больш таго, пытанне аб правядзенні такога незаконнага рэферэндуму было вырашана Вярхоўным Саветам 12-га склікання толькі пры паўторным галасаванні шляхам ўздзеяння на дэпутатаў "дубіналу". Гэта ўздзеенне на дэпутатаў заключалася ва ўводзе ўзброеных сілаў (часткова ў камуфляжнай форме) ў залу паседжанняў выбраннікаў народу.

Трэцім злоўжываннем для прыніжэння беларускай мовы было тое, што дзяржаўныя СМІ былі прадастаўлены толькі праціўнікам беларушчыны. Больш таго, у шэрагу выбарчых участкаў пры галасаванні выбаршчыкам тлумачылі як "правільна" належыць галасаваць. І гэта рабілася ў дзень праваядзення выбараў!

Не зважаючы на такія супрацьпраўныя дзеянні вертыкалі толькі (па афіцыйных звестках) 53,9% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў прагаласавала за прыніжэнне беларускай мовы. (Варта заўважыць, што вертыкаллю гэта лічба парой цытуецца як амаль 90%).

Вынікі рэферэндуму 1995 г., метад яго правядзення і сёння выкарыстоўваецца для таго, каб падкрэсліць перавагу самадзяржаўя вертыкалі над законнасцю і правам.

Адначасова побач са спасылкай на перавагі свавольства чынавенства над законнасцю былі зроблены і спробы тэарэтычнага абгрунтавання пераваг расейскасці над беларускасцю. "Па-беларуску, - пераконваў даверлівых Лукашэнка А. - нельга сказаць нічога грандыёзнага. Беларуская мова – бедная мова. Ва ўсім свеце толькі дзве вялікія мовы – расейская і ангельская". (Народная газета, 1 лютага 1995 г.).

Дадзеныя ЮНЕСКА: на свеце не тры, а каля шасці тысяч моваў. Кожная з іх мае свае перавагі і заганы... Прыклад. У мове эскімосаў няма словаў роўназначных прадметам: пальма, бяроза, асіна і г.д. Існуе адно слова, якое азначае "дрэва". Побач з гэтым у такой мове каля 40 словаў, якія маюць значэнне лёд або снег. Кожнае з гэтых лядова-снежных словаў мае свае ньюансы, часта нават гэтыя словы азначаюць супрацьлеглыя уласцівасці. Нешта ў значна меншых памерах мае месца і ў беларускай мове, напрыклад, крыга і марожанае азначае стан лёду.

Адначасова варта прыняць да ўвагі, што не зважаючы на прыняцце зручнай для вертыкалі мовы за шэсць гадоў безраздзельнай улады вертыкаллю не было сказана нічога грандыёзнага і хаця б вялікага. Побач з гэтым варта заўважыць, што акрамя зручнай для іх мовы чыноўнікі вертыкалі маюць і шэраг іншых палёгак, напрыклад, бюджэт прэзідэнта, комплекс "Дразды", запаведнікі і г.д.

Для сваіх грандыёзных выказванняў ні Лукашэнка А., ні іншыя вертыкальшчыкі, на жаль, не карысталіся ангельскай мовай. Няма вялікіх (грандыёзных) выказванняў нашага "бацькі" і на іншых мовах. Дык магчыма справа ў адсутнасці грандыёзных думак і меркаванняў з боку вертыкальных чыноўнікаў? Застаецца не зразумелым – ці адносіць Лукашэнка А. да невялікіх і бедных моваў кітайскую, лацінскую мову, хіндзі і г.д.

Ужо пасля правядзення рэферэндуму Лукашэнка А. даў дадатковае тлумачэнне перавагі расейскай ці ангельскай мовы над беларускай бо савецкая ўлада "агитировала за русский язык, за общность советских народов. Меня научили русскому языку" (газета "Советская Белоруссия, 16.09.1998 г.).

Падобнае сцвярджэнне Лукашэнкі А. раўназначна яго заяве аб дрэнным веданні ім беларускай мовы. Гэта дэзарыентуе яго ўласнае выказванне аб беднасці беларускай мовы, якую ён слаба ведае, але бярэцца ацэньваць яе.

Урэшце рэшт Лукашэнка А. спасылаецца на адсутнасць беларусаў на тэрыторыі Беларусі. Выступаючы 18 снежня 1998 г. у праграме расейскага тэлебачання "Подробности" Лукашэнка А. звярнуў увагу на адсутнасць беларусаў на тэрыторыі Беларусі. Па звестках, прадстаўленых асабіста яму "кампітэнтнымі" органамі, на тэрыторыі Беларусі жыве 25% рускіх, 10% - палякаў, 25% людзей ад змяшаных шлюбаў. Падсумоўваючы бачым, што справа ідзе пра 60% насельніцтва Беларусі.

Астатнія 40% згодна з меркаваннямі Лукашэнкі А. – гэта тэрыторыя з аморфным насельніцтвам. Нездарма ў бацькавай канстытуцыі (дарэчы прынятай супрацьпраўным чынам) уведзена тэрытарыяльнае прадстаўніцтва ў палатах. Дэпутатаў туды выбіраюць самі вертыкальшчыкі і прызначае сам "бацька". "Я не национал" – падкрэсліў Лукашэнка А. ("Пагоня" 12.12.1998г.).

Падсумоўваючы можам заўважыць, што ганенні на беларускую мову не маюць ні законнасці, ні грандыёзнасці, ні лагічнай падставы. Застаецца толькі - склад насельніцтва Беларусі, прыдуманы асабіста Лукашэнкам. Гэты выдуманы склад насельніцтва рашуча супярэчыць дадзеным двух апошніх перапісаў насельніцтва.

*Станіслаў Урбановіч,*
*навуковец,*
*г. Менск.*



Прэзідыюм канферэнцыі

# Жывая кніга прыроды

**Для педагогаў дашкольных устаноў. Укладальнік Ірына Марачкіна**

### ВЯСНА. КРАСАВІК



Красавік – сярэдзіна вясны. Стаіць пераважна яснае, бясхмарнае надвор'е. Цяплее... Знікаюць апошнія плямкі снегу, а на рэках працягваецца разводдзе.

Народная мудрасць гаворыць – красавік ваду падбірае, красачкі пушчае. Першым, сярод траў, зацвітае падбел. Яго залацістажоўтыя кветкі-кошыкі, нібы ліхтарыкі, гарыць на пагорках, дзе, здараецца, яшчэ ўчора ляжаў снег. Праз тыдзень пачынаюць красаваць пралескі, кураслеп. Затым – сон-трава, лотаць і шмат іншых. Адсюль і назва месяца – "красавік".

Пульсуе па жылах дрэваў сок. Набрынялі пупышкі. Вось-вось распусцяцца першыя лісточкі на бярозе і вольсе.

Зялёным дыванам пакрываюцца палі і лугі. Ажывае пасля зімовага сну вясенні лес. З ранку да позняга вечара і нават у глыбокую ноч тут стаіць птушыны гоман.

З кожным днём багацее птушынае царства. Вяртаюцца ў родныя мясціны любімыя птушкі беларусаў – белыя буслы або, як іх называюць у народзе, бацяны. Невялікімі чародкамі ляцяць качкі, клінам – гусі, вялікімі цёмнымі хмарамі – дробныя птушкі. Усе яны пасля доўгай халоднай зімы вяртаюцца на радзіму.

Сагрэтыя ласкавым сонцам вясну вітаюць матылькі, мітусяцца ў сваім "небаскробе" мурашы, зімовыя "кватэры" пакідаюць гадзюкі.

На азёрах, сажалках, балотах па вечарах чуюцца канцэрты жаб.

На нашых вачах, быццам у казцы, усё мяняецца. Жыццё працягваецца...

### ПЕРШЫ ДОЖДЖ

Заскакаў вясёлы дождждык
Па двары шырокім.
Нават выскачыла траўка
Паглядзець на скокі.

*Іван Муравейка.*

Пушчы паважныя, зімку праспаўшыя,
Радасна песні зайгралі свае;
Лісці зашасталі, птушкі зачырыкалі,
Свішча салоўка і дзяцел клюе...

*Янка Купала.*

### БЛАКІТ НЯБЁС

Блакіт нябёс, і белы бусел,
І кветкі ў полі, як абрус...
Мой край завецца Беларуссю,
А сам я – хлопчык-беларус.

*Сяржук Сокалаў-Воюш.*

### КРАСАВІК

Неба сіняе, сіняе, сіняе...
Ані межаў у ім, ані дна.
На зямлі ж прыгажуняй-княгіняю
Пазірае мне ў вочы вясна.
Лазнякі срэбным пухам пакрыліся,
Вецер пыл па-над імі мяце,
Тут – пралескі ў раўку затаіліся,
Сіраценькай фіялка цвіце,
Там – жаўцеюць вяночкі вясновыя
Красак нейкіх нязнаных яшчэ,
Там – ізноў, залатыя ліллёвыя...
З іх вясна дываны свае тчэ.

*Наталля Арсеннева.*

### Я ВЯСНУ МАЛЮЮ

Я вясну малюю,
Фарбаў не шкадую.
Колерам зялёным –
Дрэвы і палеткі,
Колерам чырвоным –
Сонейка і кветкі.
Колерам блакітным –
Неба, ручаіну.
А якую фарбу
Воблачку пакіну?
Я вясну малюю,
Але сам бядую.
Як падаць мне песні
Жаўранкаў у высі?
Як падаць мне пахі
Траў, што разрасліся?

Як намаляваць мне.
Што спявае вецер?
Можа ў вас ёсць фарбы?
Дайце мне іх, дзеці.

*Паўлюк Прануза.*

### ВЯСЕЛІКІ

Дзе гушкаюцца чмелікі
І поўзаюць жукі,
Растуць грыбы-вяселікі,
Вясновыя смаржкі.
Смяецца рыжы тата
І рыжанькі сынок,
Што дождждыку багата
І мяккі дзірванок.
Калі ж засвеціць сонца
Над сцежкаю грыбной,
Вяселікі бясконца
Шчаслівыя вясной.

*Еўдакія Лось.*

### КРАСАВІК

Здараліся адлігі,
І зноў кружыўся снег,
А сёння крыгі, крыгі
Распачалі свой бег.
Блакіт нябёсаў яркі,
Гракоў бадзёры крык –
Плыве на крызе шпаркай
Вясёлы Красавік.
- Куды вядзеш ты спрытна
Свой крыгу-карабель?
- У майскі край блакітны
За трыдзевяць зямель!

*Алег Мінкін.*

### ЗЯЗЮЛЯ І КУК

У птушак быў свой цар – Кук. Лятаў ён па лесе, разганяў ваўкоў і лісіц, змей – усіх, хто нападаў на птушынае царства. Аднойчы Кук не вярнуўся ў сваё гняздо. Зажурыліся ўсе лясныя птушкі: "Хто ж нас цяпер абароніць?" Сталі раіцца. Што рабіць? Трэба ісці шукаць свайго заступніка. А хто пойдзе? У кожнага – справа: той гняздо ўе, той яечкі наседжвае, той дзяцей гадуе; адзін – стары, другі – малы... Рашылі яны адправіць зязюлю – у яе дзяцей няма і гнязда няма. Спалохалася зязюля, што трэба ісці ў вялікую дарогу, і знесла яечка.

- Куды ж я яго дзену? – гаворыць зязюля.

- Пакладзі сваё яечка ў любое гняздо! – адказалі ёй птушкі.

- А хто ж яго будзе выседжваць?

- Каму пакладзеш, той і глядзець будзе!

- Хто будзе сваіх гадаваць, той і тваё дагледзіць.

І паляцела зязюля шукаць Кука. Праляціць трохі, сядзе на галінку і кліча:

- Ку-ку!

Праляціць - зноў кліча.

*З беларускай міфалогіі.*



### КОЦІКІ

Коцікі спалі
Ў цесных каморах.
Ды ручаінкі
Звіняць на пагорках.
Коцікі селі
На кусцік вярбовы,
Грэюць на сонцы
Жоўтыя бровы.

*Данута Бічэль-Загнетава.*

### ЖУРАЎЛІ

У родны край
З-за акіяна,
З-за вывсокіх сініх
Гор
Жураўлі ляцяць
Клінамі,
Абуджаючы
Прастор.
Я сабраў букет
Пралесак,
Па сырой бягу
Раллі.
Я крычу
На ўвесь палетак:
- Прывітанне,
Жураўлі!
І яны мяне
Вітаюць,
Мне крычаць:
"Курлы, курлы!.."
Верыў я –
Мяне пазнаюць,
Не забудуць
Жураўлі.

*Леанід Шырын.*

### ЛЁНЕВЫ ШПАКОЎНІ

Не на жарт стараўся Лёня,
Пілаваў і габляваў.
Адмысловыя шпакоўні
Ён для птушак змайстраваў.
Сам бялюткія дашчынкі
Скалаціў ён малатком,
Каб і кропелька-дажджынка
Не папала ўлетку ў дом.
А вясна ідзе.
Гамоняць
Звонкім пошумам гаі
На палетках і на гонях
Скрабрацца ручаі.
І аднойчы ранкам веснім,
Як вядзецца з году ў год,
Птушкі радаснаю песняй
Свой адзначылі прылёт.

*Мікола Чарняўскі.*

### ЗЯЗЮЛЯ

Пэўна, вы вясну чулі,
Як на дрэве, на суку
Кліча на ўвесь лес зязюля:
- Ку-ку! Ку-ку!
Мне расказвала бабуля,
Хлапчуку яшчэ малому,
Што на ўсё жыццё зязюля
Адцуралася ад дому.
Родных дзетак не гадуе,
А калі знясе яечка,
Возьме ў дзюбу і цікуе –
Каму ўкінуць у гняздзечка.
Не люблю я гэтай птушкі,
Што малых не хоча гушкаць,
Ні спяваць ім калыханкі,
Ні вадзіць на пагулянкі,
І ні ў ладкі з імі пляскаць,
Ні расказваць байкі-казкі.

*Васіль Вітка.*

### НЯЎЖО ВЯСНА?

- Вясна, вясна! – крычаць шпакі.
- Дзе ? Дзе? – пытаюць ручайкі.
- Бяжым, мо стрэнем ля ракі!..
- Няўжо вясна? Адкуль? Калі? –
Здзівіўся парастак малы,
Не ўседзяў, выскачыў з зямлі.
- Я сплю, а ўжо вясна прыйшла,
- Пупышка голас падала,
І тут жа распукнулася
І сонейку ўсміхнулася.

*Іван Муравейка.*



**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24. 04. 2000 г.
Наклад 3100 асобнікаў. Замова № 988
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 134 руб., 3 мес.- 402 руб.
*Кошт у розніцу:* 30 руб.